**Обновленное РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ городских автобусов на летний период 1999 года (8 стр.)**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 23 (104). 3 —9 траўня 999 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 25.000 руб.


# СТРАШНОЕ ВОСКРЕСЕНЬЕ В МИНСКЕ

**Вечером 30 мая в центре Минска произошла трагедия, в результате которой погибли 52 человека.**






В тот вечер на площади возле Дворца спорта на проспекте Машерова проходили массовые гуляния под общим названием «Пивной праздник «Аливария». В охране общественного порядка было задействовано свыше 150 милиционеров. Примерно в 20 часов 40 минут начался ливень с грозой и градом. Около двух с половиной тысяч участников массового мероприятия, многие из которых были в состоянии алкогольного опьянения, бросились к ближайшим укрытиям, большинство — в подземный переход станции метро «Немига». Поток людей в подземном туннеле приобрел неуправляемый характер, началась давка. Наряды милиции, пытавшиеся нормализовать обстановку и упорядочить движение, были смяты. При этом погибли старшина милиции В.И.Говен, старший сержант Г.В.Рябоконь, младший оперуполномоченный уголовного розыска ГУВД, один сотрудник милиции получил тяжелые телесные повреждения, еще девять — травмы легкой степени. По данным Министерства внутренних дел, всего в результате трагедии пострадали 155 человек. Из них 52 скончались от полученных травм, 35 госпитализированы. Из 52 погибших — 42 женщины, в большинстве — молодые. В республике был объявлен траур, семьям погибших и пострадавших оказана всемерная помощь. 1 июня состоялись похороны погибших, которые были опознаны. В среду жители Дятлово хоронили 19-летнего Андрея Бурца, студента Белорусского агротехнического университета.

Молодежная организация "Малады фронт" призвала своих членов и сторонников ежедневно в течение недели, в 19 часов, приходить к станции метро "Немига" с цветами и свечами, чтобы почтить память погибших во время трагедии.

К месту драматических событий приходят сотни потрясенных минчан. Они приносят цветы, зажигают свечи прямо на ступенях и парапете подземного перехода. Среди участников этой массовой гражданской панихиды — родители, родственники, друзья погибших, известные в стране люди, дипломаты.

**БелаПАН**





Фота IREX/ProMedia

**НАВІНЫ**

### Новая цана

**Кошт праезду ў слонімскіх маршрутных таксі павялічыўся да 10000 рублёў.**

Тыя пасажыры, у якіх ёсць праязныя білеты, павінны будуць за адну паездку даплочваць 5000 рублёў. Ільготную скідку на 50% маюць інваліды 1 і 2 груп, а таксама ўдзельнікі вайны і асобы да іх прыраўняныя.

### Вымушаныя канікулы

**У Слоніме адзін месяц не будуць працаваць дзіцячыя садкі №1, 3, 6, 8, 18, а 20-ты садок будзе закрыты ў жніўні на 20 дзён.**

Такое рашэнне прыняў гарадскі выканкам у сувязі з нізкім наведваннем малымі дзіцячых устаноў у летні час і ў мэтах эканоміі бюджэтных сродкаў. Разам з тым, тыя бацькі, якія маюць патрэбу ў даглядзе за дзецьмі, могуць карыстацца паслугамі бліжэйшых садкоў па месцы жыхарства.

# МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

**Трэцяга чэрвеня, у чацвер, у Слоніме адбудзецца хрэсны ход праваслаўных вернікаў.**

Ён пачнецца ў 10 гадзін раніцы каля Свята-Троіцкай царквы, пасля заканчэння літургіі. Ад храма вернікі з цудатворным Жыровіцкім абразом Маці Божай, па ўзгадненню з гарадскімі ўладамі, пройдуць па вуліцах Крайняга, Першамайскай да праваслаўнага сабора, які цяпер будуецца. Потым удзельнікі хрэснага ходу пройдуць па вуліцах Пушкіна, Міцкевіча, зойдуць у мікраён "Энка", адтуль накіруюцца ў бок Чырвонаармейскай, далей пойдуць па вуліцах Чкалава, Касманаўтаў і зноў вернуцца да Свята-Троіцкай царквы.

Як адзначаюць арганізатары гэтага мерапрыемства, падобныя хрэсныя хады калісьці праводзіліся рэгулярна. Сёлета традыцыя аднаўляецца. Хрэсныя хады прайшлі ў некаторых вёсках раёна. Цяпер святая працэсія пройдзе ў горадзе. Праваслаўныя вернікі будуць маліцца за хутчэйшае спыненне вайны ў Югаславіі, за нашу краіну, каб Бог абярагаў яе ад бедаў. Будуць вернікі маліцца за тое, каб абмінулі Беларусь засухі і іншыя прыродныя катаклізмы, каб увосень быў добры ўраджай.

**Сяргей ЁРШ**

# БЕСПРЕДЕЛ
## ИЛИ О ТОМ, КАК МИЛИЦИОНЕР ПОКАЛЕЧИЛ ЧЕЛОВЕКА

Слонимская межрайпрокуратура возбудила уголовное дело по факту избиения сотрудником милиции слонимчанина Михаила К.

Все произошло 31 марта этого года. 24-летний Михаил, рабочий одного из городских предприятий, после смены вместе с коллегой по работе купили бутылку вина и распили ее за 31-м магазином, что по улице Гагарина. После этого Михаил пришел к себе домой, переоделся и поехал к своей родственнице, которая живёт на улице Пушкина. Дома ее не оказалось. Тогда парень купил бутылку пива и пошел в сторону городского центра.

У вечного огня Михаил встретил знакомого милиционера Дмитрия О. с неизвестным. Оба они были в гражданском. Дмитрий О. сказал Михаилу К., что от него пахнет спиртным, и чтобы он шел домой. Неожиданно к ним подошли два милиционера в форме. Они взяли Михаила под руки и повели в медвытрезвитель. Там на него составили протокол и отпустили. Сам К. себя пьяным не считал.

По дороге из медвытрезвителя, у бара по улице Я. Купалы, Михаил снова встретил Дмитрия О. Рассказал ему, что на него составили протокол и попросил посодействовать, чтобы об этом не сообщали на работу... Когда К. второй раз подошел к О., тот был с напарником Л., также сотрудником милиции. Снова попросил посодействовать, чтобы на работе ничего не знали. Этот самый напарник обругал его и неожиданно стал наносить Михаилу удары кулаками в грудь и ногой в пах. К. просил, чтобы он прекратил его бить, т. к. у него в брючном кармане была открытая бутылка пива, и он мог её разбить. "После моих слов, — пишет в своем заявлении в прокуратуру Михаил К., — милиционер достал пистолет и сказал, что он сейчас вообще оставит меня на месте...". Оба сотрудника милиции заломили Михаилу за спину руки, одели наручники и повели в отдел милиции.

"В отделе милиции я почувствовал резкую боль в паховой области, — пишет в том же заявлении К., — о чем сказал офицеру, находящемуся в дежурной части. Он приказал мне снять штаны и показать, в каком месте я ощущаю боль. Милиционер увидел, что у меня сильно травмированы половые органы...". На милицейской машине Михаила отвезли в райбольницу, где в хирургии ему немедленно сделали операцию. В лечебном учреждении он провел около месяца.

В больницу к Михаилу К. неоднократно приезжали милиционеры О. и Л. Они просили его не подавать заявление в прокуратуру. "О. и этот милиционер мне стали угрожать, — пишет К., — что возбудят против меня уголовное дело, а статью, мол, они найдут... На следующий день они снова приехали ко мне. Стали предлагать за полученную травму доллары, когда же я отказался, снова стали угрожать...".

Как сообщил корреспонденту "ГС" заместитель прокурора Виктор Русакевич, дело возбуждено по статье 167 (часть 2) УК РБ "Превышение служебных полномочий". Следствие продлится до середины июня. В. Русакевич отметил, что у дела "есть судебная перспектива". По его словам, недавно межрайпрокуратура уже направила подобное дело в суд, по которому проходит тоже два милиционера...

**Сергей ЁРШ**

**P.S.** Как стало известно «ГС», проходящий по этому делу Л. был уволен из милиции в начале мая.

# ЛЕТА ПАЧАЛОСЯ З ВАЛЬСА



Фота Мікалая СУПРУНА

Празвінеў апошні званок. Для выпускнікоў школ ён сапраўды апошні, а ўсім астатнім вучням ён абвясціў канікулы. І як не парадавацца апошняму званку! Можна нават запрасіць на танец сваю аднакласніцу і закружыць яе ў вальсе, як зрабілі гэта юныя пары з шостай сярэдняй школы. Бо канікулы — цудоўная пара! Адпачывай колькі табе захочацца! І не трэба хвалявацца за адзнакі і ўрокі, не трэба думаць-гадаць, ці выклічуць сёння цябе да дошкі.

Канікулы — ёсць канікулы! Толькі расслабляцца пакуль ранавата. У выпускнікоў пачаліся першыя іспыты. Таму давайце пажадаем ім ні пуху, ні пер'я!

Сяргей ЧЫГРЫН

# ВОСЬ ДЫК ФІРМА

У школьнікаў пачаліся летнія канікулы. З гэтай нагоды вучні 8-х і 10-х класаў СШ №4 г.Слоніма вырашылі наведаць Брэст і Белавежскую пушчу. Слонімскае экскурсбюро прапаноўвае такую паездку за 1 млн. 40 тысяч рублёў. Гэта сума не кожнаму па кішэні, таму мы звярнуліся ў фірму "Эфа", якая такое ж падарожжа арганізоўвае за 400 тысяч. Улічваючы нашу беднасць, мы заключылі з ёй дамову. 28 траўня ў сем гадзін раніцы каля школы 80 дзяцей чакалі абяцаных два "Ікарусы". Але замест іх у 7-15 на таксі прыехала дырэктар "Эфы" Алена Кляшчэўская і сказала, што без яе ведама аўтобусы памылкова адпраўлены ў шостую школу. У 7-25 мы патэлефанавалі дамоў дырэктару СШ №6. Наша пытанне аб экскурсіі яго здзівіла, бо ў гэты дзень з шостай школы ў Брэст ніхто не выязджаў. Тады Кляшчэўская зусім разгубілася, бо не ведала, дзе аўтобусы. Але паабяцала заўтра вывезці нашых вучняў на экскурсію ў Брэст.

29 траўня ў 6-30 амаль усе дзеці зноў прыйшлі да школы. У сем гадзін з'явілася тая ж Кляшчэўская і аб'явіла, што і сёння экскурсія адмяняецца, бо няма аўтобусаў, але грошы за экскурсію яна дзецям верне. Грошы, сапраўды, яна аддала. Але як былі расчараваны дзеці і настаўнікі... Тым больш, што Алена Кляшчэўская — былая вучаніца нашай школы.

Настаўнікі Раіса ГРЫШУК, Людміла ХІЛЬКО, Марыя БАГДАНОВІЧ, Галіна КАРОЛЬЧЫК, Генадзь БАДЗЕЙ і 80 вучняў СШ №4 г.Слоніма

## НАВІНЫ

### Фіналісты фестывалю "Усе мы родам з дзяцінства"

**У Гродне прайшоў абласны тур IV усебеларускага тэлефестывалю "Усе мы родам з дзяцінства".**

У ім паспяхова выступілі юныя артысты са Слоніма, Дзятлава, Зэльвы і Мастоў, якія выйшлі ў фінал тэлефестывалю. Гэта Яўгенія Сталбанава, Яўген Ільчанка, Юлія Шышко, вакальны квартэт і вакальнае трыо з СШ №8, тэатр эстраднага спартыўнага танца "Каскад" і калектыў "Слонімскія вясялушкі" са Слоніма, Віталь Галубовіч з Мастоў, Марына Чаргейка з Зэльвы, Таццяна Капцеўская і Людміла Палавінка з Дзятлава.

Спецыяльны прыз абласнога аддзялення Беларускага фонду міра быў уручаны Юліі Шышко і Яўгену Ільчанку са Слоніма.

Сяргей ЧЫГРЫН

### Былы слонімскі міліцыянер стаў генералам

**Нядаўна ўказам прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі палкоўніку Юрыю Радзюкевічу было прысвоена званне "генерал-маёр міліцыі".**

Напомнім, што ў 1985-1991 гадах Юрый Радзюкевіч, тады яшчэ падпалкоўнік, быў начальнікам слонімскай міліцыі. А цяпер ён займае пасаду намесніка міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

Алег ТАЧОНЫ

### К концу года один доллар будет стоить миллион рублей

**Профессор Станислав Богданкевич, бывший глава Национального банка, считает, что в основе у нас лежит семейная экономика во главе с «батькой», где понятия «рентабельность», «сохранность сбережений» и т.д. не играют роли, где целые отрасли работают на грани банкротства. Проводя такую экономическую политику, мы выступаем в роли временщиков, которых волнует только сегодняшний день».**

По мнению Богданкевича, белорусское правительство вновь взяло курс на «завинчивание гаек» в экономике, о чем свидетельствует недавний указ о мерах по стабилизации цен и тарифов. Однако, на его взгляд, это обернется дефицитом на потребительском рынке, падением валового внутреннего продукта и дальнейшим усилением «теневого» сектора экономики, который сегодня «составляет около 60%». По прогнозу Богданкевича, рост рыночного курса доллара до одного миллиона рублей практически предрешен уже в этом году.

БелаПАН

### Мужчин умирает больше

**За январь-март 1999 года численность населения Беларуси сократилась на 12 тысяч человек. По данным Министерства статистики и анализа, в настоящее время в республике проживает около 10 миллионов человек. Естественная убыль населения наблюдается в стране с 1993 года. За это время количество жителей уменьшилось примерно на 300 тысяч человек.**

Специалисты, в частности, отмечают высокий рост смертности у мужчин в возрастных группах, приближающихся к выходу из трудоспособного возраста (50-59 лет). В 1998 году ожидаемая продолжительность жизни у мужчин Беларуси при рождении составляла 62,7 года против 67,9 года в 1997 году. Средняя продолжительность жизни женщин за этот период увеличилась на 0,1 года и достигла 74,4 года. Таким образом, разница в продолжительности жизни мужчин и женщин в Беларуси выросла до 11,7 года.

Основными причинами смертности населения страны остаются болезни системы кровообращения (в 55% случаев) и онкологические заболевания (в 12% случаев).

БелаПАН

### І ў Мастах будзе "Секс"

**Маладзечанскі абласны драматычны тэатр мае намер паказаць п'есу Лявона Вашко "Секс па тэлефоне" у Мастах, дзе нарадзіўся аўтар.**

Гастролі тэатра пачнуцца напрыканцы чэрвеня.

Язэп ПАЛУБЯТКА

### Мастаўчан паменшала

**Як паведаміла начальнік раённага аддзела статыстыкі Яўгенія Плотнікава, згодна папярэдніх звестак перапісу насельніцтва 1999 года, колькасць жыхароў раёна складае 41418 чалавек.**

У параўнанні з перапісам 1989 года колькасць насельніцтва скарацілася на 585 чалавек. У вёсцы жыхароў стала менш на 2578 чалавек, а ў горадзе яно павялічылася на 1985. Цяпер у Мастах пражывае 18330 чалавек, з іх 8663 мужчын і 9667 жанчын.

Язэп ПАЛУБЯТКА

### Адключылі тэлефон

**У Дзятлаўскім МПМК-147 змоўклі ўсе тэлефоны, акрамя начальніка і бухгалтэрыі, бо ў арганізацыі няма грошай на іх аплату.**

Дарэчы, там яшчэ не выплацілі заробак за красавік.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## ЗДАРЭННІ

### Пазалаціла руку ашуканкам

**У мінулы чацвер за свой давер паплацілася яшчэ адна маладая слонімчанка.**

У скверы, што на плошчы Леніна, дзве варажбіткі (адна пажылая, другая на выгляд 25 гадоў) прапанавалі дзяўчыне зняць сурокі. Падманным шляхам заваладаўшы сямю залатымі вырабамі, якія пацярпелая спецыяльна прынесла з дому, ашуканкі зніклі.

### Пасля экзамена — у турму

**На мінулым тыдні з цяжкімі калецтвамі ў бальніцу быў дастаўлены слонімец К.**

А "дапамог" яму ў гэтым абітурыент Жыровіцкага тэхнікума з Навагрудка. Пасля таго, як К. у кафэ "Ёлачка" зрабіў заўвагу хлопцу на яго хуліганскія паводзіны, апошні выклікаў слонімца на вуліцу і ўдарыў яго некалькі разоў кулаком па галаве. Злачынца затрыманы.

### Загінуў на месцы

**На мінулым тыдні ў выніку аварыі загінуў 42-гадовы слонімец Аляксандр Чыгрын.**

Днём 26 траўня ён ехаў на матацыкле па праспекце Незалежнасці ў бок мікраёна "Энка". Не справіўшыся з кіраваннем, матацыкліст стукнуўся ў аўтамабіль ЗІЛ, які стаяў на збочыне. Ад атрыманых калецтваў Чыгрын памёр на месцы здарэння.

Валянцін ЧУРЫЛА

### Зламалі млын

**У Мастах невядомыя зламалі макет млына, што стаяў у парку на беразе Нёмана.**

Млын быў пабудаваны спецыяльна для правядзення ў Мастах рэспубліканскага свята "Дажынкі-97".

Антон МАКЕЙ

### Забіла мужа

**Днямі ў Мастах падчас сямейнай сваркі жонка, схапіўшы кухонны нож, нанесла мужу смяротны ўдар у грудзі.**

Выратаваць мужчыне жыццё дактары не змаглі.

### Укралі, але не прадалі

**Трое жыхароў Мастоўскага раёна ўкралі на трактарарамонтным прадпрыемстве запасных частак да трактароў на суму звыш 250 млн.руб.**

Усё гэта яны паклалі ў "Жыгулі" і спрабавалі адвезці ў надзейнае месца, каб пазней прадаць.

Аднак злодзеяў затрымала рэйдавая брыгада міліцыі.

Міхась ЗАГОРСКІ

### Загарэўся катэдж

**Апоўначы на вуліцы Дзекабрыстаў г.Слоніма раптоўна загарэўся недабудаваны шматпавярховы катэдж, які належыць Раісе Бузук.**

Пакуль выклікалі пажарных, агонь моцна пашкодзіў страху і перакрыцці будынка. Прычына загарання высвятляецца.

Валянцін ЧУРЫЛА

### Знойдзены труп мужчыны

**У лесе ля вёскі Русакі Дзятлаўскага раёна знойдзены труп мужчыны без прыкмет гвалтоўнай смерці.**

Міліцыя ўстанавіла асобу нябожчыка. Ім аказаўся жыхар вёскі Гербялевічы.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

### Не захацеў жыць

**Раніцай 1 чэрвеня ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна, у адным з пакояў уласнага дома, бацькі выявілі свайго сына павешаным.**

13-гадовы Андрэй Чыгрын закончыў 7 класаў Хадзявіцкай школы. Настаўнікі і аднакласнікі ведалі яго, як спакойнага і замкнёнага хлопца. Што падштурхнула Андрэя пакончыць жыццё самагубствам высвятляе пракуратура.

Валянцін ЧУРЫЛА

### А як быць дзецям?

**У Дзятлаве распачаўся судовы працэс над жанчынай, якая забіла свайго мужа.**

Здарылася гэта падчас адной з сямейных сварак. Без нагляду бацькоў засталіся непаўнагадовыя дзеці.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 2 чэрвеня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 1550



E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

НАШЫ ГОСЦІ

# КОНІ ФРЭДРЫКСАН: "Шмат што тут нагадвае савецкія часы..."

**Як ужо паведамляла "ГС", нядаўна Слонім наведала дэлегацыя сацыял-дэмакратаў, у складзе якой быў старшыня Сацыялістычнага інтэрнацыянала ў Еўропе, дэпутат Еўрапарламента сп. Коні Фрэдрыксан, а таксама кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікола Статкевіч. Яны сустрэліся з кіраўніцтвам мясцовай арганізацыі БСДП, абмеркавалі праблемы, якія стаяць перад апазіцыйнымі арганізацыямі ва ўмовах існуючага ў Беларусі рэжыму. Сп. Фрэдрыксан асабліва адзначыў важнасць падтрымання сувязей беларускіх сацыял-дэмакратаў са сваімі калегамі ў Еўропе.**



Коні Фрэдрыксан працуе ў Брусселі, дзе знаходзіцца генеральны сакратарыят Сацінтэрна. А пачынаў ён сваю палітычную кар'еру, як кіраўнік гарадской сацыял-дэмакратычнай арганізацыі ў Швецыі. Сп. Фрэдрыксан згадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта "ГС".

***— Спадар Фрэдрыксан, як вы лічыце, наколькі інфармаваны Захад, у прыватнасці, ваша арганізацыя пра сітуацыю ў Беларусі?***

— Інфармацыю мы маем. Найперш з заходняй прэсы, якая часта піша пра Беларусь і Лукашэнку... Вядома, усе мы насцярожыліся, калі Лукашэнка пачаў гаварыць пра саюз з югаслаўскім прэзідэнтам Мілошавічам. Многія дзеянні вашага прэзідэнта проста здзіўляюць заходнюю грамадскасць... У Брусселі дзейнічае прадстаўніцтва "Хартыі-97", якое распаўсюджвае інфармацыю пра Беларусь, пра падзеі, якія тут адбываюцца. Шмат мы ведаем і ад нашых партнёраў з Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, якім даводзіцца працаваць у вельмі складаных умовах...

***— Чым Сацыялістычны інтэрнацыянал збіраецца дапамагчы сваім беларускім аднадумцам?***

— Пытанне будзем абмяркоўваць пасля гэтай паездкі. Але ўжо бачым, што нават цэнтральныя органы партыі, не гаворачы пра рэгіянальныя арганізацыі, не забяспечаны неабходнай камп'ютэрнай тэхнікай. А як без яе працаваць?

***— Вы швед па нацыянальнасці. Як вы лічыце, што найлепш характарызуе шведаў?***

— Мы, шведы, вялікія індывідуалісты. Аднак нашы нацыянальныя зборныя добра выступаюць у камандных відах спорту. Не ведаю, чым тут гэта можна патлумачыць...

***— Вы першы раз у Беларусі?***

— Не. Я раней бываў у вашай краіне. Кліматычныя ўмовы ў Беларусі мне вельмі нагадваюць паўднёвую Швецыю. Але, разам з тым, шмат што тут нагадвае савецкія часы...

***— Напрыклад?***

— У тым жа гатэлі супрацоўнікі абсалютна не зацікаўлены кліентам. Могуць проста не звяртаць на яго ўвагі. У Баранавічах я сутыкнуўся з такой праблемай. Мяне гэта вельмі здзівіла, бо на Захадзе такога не ўбачыш... У баранавіцкім рэстаране была такая дрэнная музыка і яна так моцна гучала, што мне з сябрамі прыйшлося сысці і пашукаць сабе іншае месца для вячэры.

***— А засталіся якія-небудзь станоўчыя ўражанні ад паездкі?***

— Аднойчы я пакідаў гатэль і забыўся дзесьці пашпарт. Ужо на вуліцы мяне дагнала кабета і аддала яго... Наогул, у вас цудоўныя людзі. Але дзесяцігоддзі існавання савецкага рэжыму не маглі не зрабіць адбітку на грамадскую свядомасць беларусаў. Вядома, з часам усё павінна змяніцца...

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**



*Коні Фрэдрыксан падчас размовы са слонімцамі*

ПРОШУ СЛОВА

# БЕЗВРЕМЕНЬЕ...

**Очевидно, что многие люди старшего поколения мечтают (и с этим надо считаться) вновь вернуться в 70-80 годы. В годы относительного благополучия, спокойствия и уверенности в завтрашнем дне. И вроде бы наше сегодня мало чем отличается от вчера: у власти вместо КПСС та же партия — "вертикаль", развевается БССРовский флаг, господствует русский язык, действуют политинформаторы на предприятиях, проводятся аресты "вредителей"... Но вернуть Беларусь в прежнее состояние — все равно, что на стену наклеить оборванные обои. Возврат, полноценный реванш требует "железного занавеса" и, прежде всего, перекрытия информационного потока. В идеальном виде подобное сделано в Северной Корее: там люди мрут от голода, но очень любят своего вождя.**

Белорусские власти проводят аналогичную политику. Жители страны по радио, привязанному к одному проводу, и по Белорусскому телевидению могут услышать и увидеть только то, что "надо". В Слониме местные власти, естественно "беспокоясь" за нас с вами, взяли под свой контроль кабельное телевидение.

Однако в Беларуси невозможно (не хватит на это материальных средств) перекрыть информационный поток извне. Поэтому, в отличие от Северной Кореи, у нас количество людей, недовольных властью, медленно, но неотвратимо растет. Когда количество недовольных достигнет критической точки, произойдут качественные изменения, и тогда мы перестанем клеить старые оборванные обои.

### Исход

Но, судя по действиям самых информированных людей — государственных чиновников, — в своем движении вспять мы еще не достигли низшей точки.

Общеизвестны попытки Сергея Линга уйти с поста премьер-министра. Такие же процессы идут и на местах. Ушел из Слонимского горисполкома Анатолий Лагутик. По неофициальной информации, желают распрощаться со своими руководящими должностями Олег Лактюшин, Михаил Окулик, Станислав Зданович. Второй месяц ведутся поиски человека на должность заместителя председателя горисполкома, вакантную после избрания Войцеха Угриновича председателем городского Совета.

И это неудивительно. В пору безвременья чиновничий люд — самый уязвимый. Сегодня ты на коне, а завтра уже "вредитель" со всеми вытекающими последствиями. Подать в отставку они не могут. Для некоторых чиновников остаться без должности в моральном плане равносильно смерти: ведь все увидят, что "король-то голый". Вот и ищут они места менее опасные и, желательно, более доходные.

### Не убить Дракона

Налицо кризис власти. Совершенно очевидна беспомощность, неспособность вертикали изменить ситуацию к лучшему. Нынешний режим, говоря словами классика, это "стена, да гнилая, ткни — она и развалится".

Опыт президентских выборов в 1994 году показал, что именно от такого развала мало что изменится. Антилукашенковская оппозиция может породить только подобного руководителя. Возможно, единственным отличием нового правителя будет его ориентация на Запад. Нынешний президент является порождением общества...

В известной пьесе Шварца "Убить Дракона" рыцарь Ланселот убивает чудовище, которое терроризировало население. Но народ добровольно покоряется Ланселоту, даже против его желания, как перед новым Драконом. И Ланселот, в итоге, принимает покорность освобожденных им же людей, поскольку они, в принципе, не знают, как жить без Дракона.

Для того, чтобы Беларусь, наконец, перешла к демократии, нужно время. Мы должны перенести недуг, вылечиться от него и, желательно, не хирургическим путем.

### Выбрать не "кого", а "что"...

Прежде всего, нынешняя оппозиция должна перестать быть антилукашенковской. Людям нужно предложить приемлемый для них вариант выбора не "против кого" и не "за кого", а "за что"... И этим "что" может быть идея местного самоуправления, которая в упрощенной форме звучит так: "Самый лучший способ управления мною — отдать это управление мне". В данном случае меняется не "Дракон", а порочная система.

Для осуществления этого, у людей, претендующих на власть, должны быть не только демократические убеждения, но и хотя бы начальное представление о том, что и как они должны делать, придя к власти. Тогда от системы отпадут многие чиновники и руководители, которые, не приемля ее в душе, сегодня вынужденно работают за кусок хлеба (правда, — с маслом). А служить режиму останутся лишь бездарности и чересчур "замазавшиеся".

**Михась ВАРАНЕЦ**

ПРАБЛЕМА

# "НЯЎЖО НАША ГРАМАДСТВА ТАКОЕ БЕДНАЕ?"

*Калі ў Рышчыцах, нарэшце, пачнуць будаваць школу? Гэтае пытанне хвалюе ўсе маладыя сем'і, у каго ёсць дзеці. У апошнія гады мікраёен значна вырас, павялічылася і колькасць дзяцей. Да школ, якія знаходзяцца ў цэнтры, дабірацца ім вельмі цяжка. Звычайна аўтобусы перапоўненыя. Дзеці своечасова дамоў не вяртаюцца. Бацькі хвалююцца.*

*Няўжо наша грамадства такое беднае, што не можа зрабіць нашым дзецям лепшыя ўмовы. Навошта дзеткам пачатковых класаў праязныя білеты. Няўжо мы на гэтым разбагацеем. У аўтобусным натоўпе дзеці праязныя білеты часта губляюць. Няўжо падчас праверкі кантралёры іх павінны высаджваць?*

*Мне здаецца, што ў час пік трэба выдзяляць дадатковы аўтобус для перавозкі дзяцей у школу. Калі гэта немагчыма ці накладна, то хай тады ўлады будуюць новую школу, каб не пакутавалі дзеці.*

**І. СЯРГЕЕВА**

### Ад рэдакцыі:

Сёння наша грамадства сапраўды вельмі беднае. Сцвярджэнні нашых кіраўнікоў, што мы ўжо амаль дасягнулі ўзроўню вытворчасці 1990 года — хлусня. Але і з таго, што ёсць, толькі малая частка дастаецца чалавеку працы. Нядаўна старшыня "дзяржаўных" прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык афіцыйна заявіў, што сёння на Беларусі заробак работніка ў сабекошце прадукцыі складае 7% (у часы СССР у 80-я гады — 11%). А астатняе?!..

Простая замена адных людзей, што пры ўладзе, на другіх, нічога не дасць. Прычына такога становішча — у неэфектыўнай сістэме, пры якой лепш жыве не той, хто лепш працуе, а той, хто дзеліць вынікі працы работніка. А наконт таго, ці будзе будавацца школа ў Рышчыцах — лепш ведаюць улады.

НАВІНЫ

## Ці скароцяць змену?

**Кіраўніцтва АТ "Мастоўдрэў" мае намер ліквідаваць начную змену ў цэху гнута-клееных дэталяў.**

Такая неабходнасць узнікла ў сувязі з затаваранасцю складоў. Нягледзячы на тое, што рабочыя цэха паспяхова выконваюць план, прадукцыя не знаходзіць рынкі збыту. Цяпер людзі з жахам думаюць: хто з іх будзе звольнены?

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Свята зацвярджае старшыня

**Праўленне калгаса імя Чапаева Мастоўскага раёна прыняло важны дакумент, дзе вызначаны пакаранні за нявыхад на працу.**

Кіраўніцтва гаспадаркі адпагалосна прагаласавала за стопрацэнтнае пазбаўленне ўсіх даплат ды іншых ільгот таксама за невыкананне ўказанняў галоўных спецыялістаў, начальнікаў участкаў, загадчыкаў фермаў, брыгадзіраў. Атрымае чалавек спагнанне і за тое, калі не пойдзе на працу ў выхадныя ды святочныя дні, калі яны абвешчаны рабочымі. А абвяшчаць святочныя і рабочыя дні мае права толькі старшыня калгаса.

Дарэчы, тым часам у гаспадарцы палявод зарабляе паўтара мільёны рублёў.

**Антон МАКЕЙ**

РЭЗАНАНС

## Переучета действительно не было

В № 20 "ГС" от 13-19 мая 1999 года было опубликовано критическое письмо жительницы деревни Сеньковщина Валентины Добренко о работе местного торгового центра. Редакция получила ответ от председателя правления Слонимского райпо Сергея Рогозика. Он сообщил, что факты имели место. В частности, "магазин действительно был закрыт, но не на переучет, а на передачу товарно-материальных ценностей с 10.30 до 14.30". Сергей Рогозик далее пишет, что "правлением Слонимского райпо по согласованию с исполкомом Сеньковщинского сельского Совета пересмотрены графики работы всех торговых предприятий, в том числе и магазина "Продукты" и "Промтовары" д. Сеньковщина на весенне-летний период... В настоящее время магазин "Продукты" д. Сеньковщина работает с 8.00 до 20.00, магазин "Промтовары" — с 9.00 до 17.00".

# МІЛІЦЫЮ ШТУРМАВАЛІ ДВА РАЗЫ?

**У сакавіку 1999 года ў "ГС" быў змешчаны артыкул "Як рамеснікі слонімскую міліцыю штурмавалі". У ім распавядалася пра канфлікт, які ўзнік паміж навучэнцамі слонімскага рамеснага вучылішча і супрацоўнікамі міліцыі, і які выліўся ў штурм райаддзела МУС. Па адных звестках, адбыліся гэтыя падзеі ў 1951 г., па іншых — у 1953-м. Аднак цяпер ёсць падставы меркаваць, што слонімскія рамеснікі нападалі на міліцыю два разы, летам 1951-га і восенню 1953 года. Пра падзеі кастрычніка 1953 года ўспамінае іх удзельнік, 62-гадовы Віктар С.:**

Быў выхадны дзень, нядзеля. Усё пачалося з бойкі каля помніка Сталіну. Рамеснік Юра Санюк, які быў у грамадзянскім адзенні, пасварыўся з нейкім мужчынам. Ну, і той даў Санюку тумака (каб ён ведаў, што гэта рамеснік, не зачапіў бы!). А тут ішлі нашы хлопцы, убачылі, што б'юць Юру. Яны заступіліся за яго... Да месца бойкі падбег міліцыянер, дасталося і яму. Ён выхапіў пісталет і два разы стрэліў у паветра. А гэта быў выхадны дзень, адразу да месца бойкі пачалі збірацца людзі. Падаспела і міліцыя. Некалькі рамеснікаў было затрымана — іх павялі ў міліцыю, што знаходзілася на Савецкай вуліцы.

Вучылішча наша было блізка. Калі там даведаліся, што "нашых б'юць", пайшлі на дапамогу. Каля 70-80 чалавек падышло да будынка міліцыі з мэтай вызваліць сяброў. А людзей сабралася столькі, колькі звычайна было на дэманстрацыях. Па тратуарах немагчыма было прайсці. Мы чакалі... Тут прайшлі чуткі, што міліцыя выклікала на дапамогу аўтаматчыкаў, але яны так і не з'явіліся. Праз нейкі час мы вярнуліся ў вучылішча. І вось, не даходзячы да інтэрната, адзін рамеснік, як у фільмах пра рэвалюцыю, стаў і кажа : "Нашых б'юць, назад! Пойдзем, вызвалім іх!". І пайшлі. Забралі з інтэрната нават тых, хто не хацеў ісці. Сабралася нас больш за 100 чалавек.

Штурм пачаўся з біцця шыбаў у вокнах райаддзела міліцыі камянямі. Каля будынка стаяў "варанок", дык яго разабралі па частках хлопцы, якія вучыліся на слесараў-аўтарамонтнікаў. Хацелі зайсці ў міліцыю, але міліцыянеры сталі страляць з другога паверха ў падлогу...



*Слонімскія рамеснікі ў Вільні, 1955 г.*

Падзеі гэтыя працягваліся да 7-8 гадзін вечара. Супакоіліся мы, вярнуліся ў інтэрнат. Ніхто нас не разганяў. Прыйшоў да нас у клуб сакратар гаркама партыі і сказаў: "Хлопцы, і вы не правы, і яны (міліцыя) не правы. Пагарачыліся... Трэба супакоіцца, каб больш такіх інцыдэнтаў не было...".

Якія былі наступствы? Сярод рамеснікаў параненых не было, а міліцыянераў пацярпела чалавек 18-20. Арыштаваных хлопцаў адпусцілі ў той жа дзень — выканаў наша патрабаванне сакратар гаркама. Але пазней іх судзілі, Санюка і яшчэ аднаго рамесніка, у якога знайшлі пісталет. Далі ім па тры гады турмы. Рахматуліна Фарыда асудзілі ўмоўна... Вучылішча наша расфарміравалі, было створана СПТВ № 5, я сам новую шыльду прымацоўваў. Па размеркаванню нас раскідалі па ўсяму Саюзу. Хацелі накіраваць на цаліну, але нешта не атрымалася. Дзесяць хлопцаў трапілі ў Вільню. Іншыя — у Мінск, Архангельск, Камсамольск-на-Амуры...

Памятаю, што пасля таго канфлікту былі зняты са сваіх пасадаў дырэктар нашага вучылішча Юшчанкоў, начальнік міліцыі і сакратар гаркама. Новы дырэктар вучылішча Зубовіч казаў нам, што пра наш штурм міліцыі перадавалі заходнія радыёстанцыі. Усё было пададзена, як незадавальненне моладзі савецкай уладай... Хацелася б яшчэ ўспомніць, што разам з рамеснікамі судзілі і некалькі грамадзянскіх. Нібыта яны нас падштурхнулі на выступ. Але на самой справе ўсё было стыхійна. Я думаю, што проста трэба было гэтых людзей пасадзіць, і для гэтага была добрая нагода. Аднаго звалі Міско Леанід, ён атрымаў некалькі гадоў турмы.

**Запісаў Сяргей ЁРШ**

МАЛАВЯДОМАЕ ІМЯ

## Забыты матэматык

Сёлета ў траўні споўнілася 215 гадоў з дня нараджэння нашага земляка, вучонага, педагога і матэматыка Міхала Пелкі-Палінскага. Пра яго слонімцы амаль нічога не ведаюць. Аднак у свой час гэты чалавек пакінуў значны след у гісторыі.

Нарадзіўся Міхал Пелка-Палінскі ў 1784 годзе ў Слонімскім павеце. Закончыў Жыровіцкую гімназію, настаўніцкую семінарыю пры Віленскім універсітэце, а потым універсітэт. У 1809 годзе ў званні магістра філасофіі пачаў сваю педагагічную дзейнасць на пасадзе старэйшага настаўніка матэматыкі і логікі ў Менскай гімназіі. Нататкі і нарыхтоўкі да ўрокаў Міхала Пелкі-Палінскага сталі грунтам для стварэння падручніка па трыганаметрыі — "Пачаткі плоскай трыганаметрыі" (Вільня, 1916). Гэта кніга была прызнана адной з лепшых у галіне матэматыкі, рэкамендавана школьным камітэтам да ўжытку ва ўсіх школах Віленскай вучэбнай акругі і перавыдавалася яшчэ тры разы.

У 1813 годзе Палінскі пераязджае ў Вільню, дзе пасля абароны дысертацыі па геадэзіі, працуе прафесарам матэматыкі, пасля прэфектам настаўніцкай семінарыі пры ўніверсітэце, а з 1824 па 1832 год быў дэканам матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта.

Наш зямляк з'яўляўся таксама членам Фларэнцыйскай, Парыжскай, Падуанскай, Луканскай акадэмій навук, Таварыства аматараў навук у Варшаве.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

КНІГА У ГАЗЕЦЕ *Васіль СУПРУН. «Дзеі над Шчарай» (З гісторыі зямлі Слонімскай)*

## З глыбінь стагоддзяў

Ужо ў 1249 годзе галіцкі князь Даніла з вялікай дружынай рушыў на Слонім і Ваўкавыск, але безвынікова. А праз тры гады, значна папоўніўшы дружыны, "брата си посла на Волковыеск, а сына на Услоним, а сам иде ко Здитову: и поимаша грады многы". Хронікі Быхаўца і Стрыйкоўскага паведамляюць, што Даніла і Васілька на Літву хадзілі супольна з татарамі. Аднак, напэўна, і гэтыя паходы супраць Міндоўга не прынеслі Данілу жаданых матэрыяльных і тэрытарыяльных здабыткаў, бо толькі на падставе Холмскага дагавору 1254-1255 гадоў Слонім, Навагрудак і Ваўкавыск часова трапілі пад уладу сына Данілы — Рамана.

Нягледзячы на часовую згоду Міндоўга аб перадачы згаданых гарадоў у княжанне Раману Данілавічу, вялікакняжацкая ўлада над імі заставалася ўсё ж у руках Міндоўга. І ўжо ў 1258-1259 гадах у час набегу татараў на Літву, так званыя Чарнарускія землі зноў апынуліся пад апекай князёў Войшалка і Таўцівіла.

Галіцка-уладзімірскія князі не пераставалі нападаць на гэтыя княствы ў змове то з татарамі, то з крыжакамі. І калі на поўначы Слонімскай зямлі са згоды мясцовай рады князь Тройдэн пасяліў частку збеглых ад крыжакоў прусаў, князь Уладзімір з братам Львом у 1276 годзе "послаша рать свою ко Вослонимови взяста е, абыше земле не подседали".

У 1281 годзе летапісы ўспамінаюць князя "вослонимского" Васілька, які браў удзел у паходзе на Баляслава мазавецкага разам з князем Уладзімірам валынскім і яго раццю, а гэта сведчыць аб нейкім палітычным кантакце між тымі князямі і іх тэрыторыямі. Якія былі між імі адносіны — партнёрскія ці залежныя, сказаць цяжка, бо ўжо з 1283 года Слонім, а таксама Бярэсце і Пінск зноў ахоўваліся смелым і энергічным літоўскім князем Віценем — старэйшым братам Гедыміна. Віцень паспяхова змагаўся як з татарамі, так і валынскімі князямі. Княжыў жа ён да 1315 года.

Раздзяляючы землі свайго княства паміж сямю сынамі, вялікі князь Гедымін прызначыў Слонім і Кернаў найстарэйшаму з іх — Монівіду (Монтывіду). Згадваючы пра гэта, Бр. Александровіч спасылаецца на Я. Длугаша і зазначае, што некаторыя прускія хронікі Монтывіда з 1341 да 1345 года ўспамінаюць вялікім князем літоўскім.

Пры Альгердзе, які быў вялікім князем з 1345 да 1377 года, Слонімшчына заставалася ўдзельным княствам у складзе Вялікага княства Літоўскага і ахоўвалася яго братам Кейстутам, які валодаў і Трокамі. Нягледзячы на тое, што месцам яго асноўнага княжання заставаліся Трокі, князь з сынам Вітаўтам неаднойчы бываў у слонімскім замку і добра ведаў гэты край. Магчыма, таму Вітаўт, уцёкшы з крэўскага астрога ў адзенні служанкі сваёй жонкі, куды яго кінуў у 1382 годзе стрыечны брат Ягайла, ратаваўся ад карнай пагоні менавіта на Слонімшчыне. Тут ён знайшоў спагаду і надзейны прытулак. Адсюль пасля прамінуўшай пагрозы ён накіраваўся ў крыжацкі стан, шукаючы дапамогі ў сваёй барацьбе з Ягайлам, па загаду якога ў тым жа 1382 годзе ў Крэве быў задушаны яго бацька, вялікі князь Кейстут.

У 1385 годзе ў Вільні, Крэве, Слоніме і Ваўкавыску прайшлі з'езды ўдзельных князёў і паслоў рад Вялікага княства Літоўскага, на якіх абмяркоўваліся ўмовы прайшоўшага ў Крэве (14 жніўня 1385) палітычнага аб'яднання з каралеўствам Польскім. Са Слоніма ў 1386 годзе ўся літоўская дэлегацыя накіравалася на сейм у Люблін, дзе вялікі князь літоўскі Ягайла быў абраны каралём польскім.

Пасля трагічнай смерці Кейстута, Слонім перайшоў пад непасрэдную апеку князя Вітаўта, хоць кіраваўся яго намеснікамі і мясцовай радай. Каб ажывіць рамёствы і гандаль, у гарадах, згодна прывілею ад 1388 года, было дазволена сяліцца яўрэям. З гэтага часу ў Слоніме, на тэрыторыі цяперашняга Замосця, узнікла першая яўрэйская калонія, а побач з ёю могільнік, што захоўваўся да 1946 года.

Стаўшы вялікім князем (1392 — 1430) Вітаўт неаднаразова наведваў Слонім і іншыя мясціны гэтага краю. Прыязджаў ён сюды і ў 1407 годзе, а ў 1409 г. быў з жонкай Ганнай. Тут іх застала вестка аб крыжацкім нападзе на Ваўкавыск.

Трэба адзначыць, што крыжацкія набегі на Слонім старажытнымі дакументамі не зафіксаваны (аўтару невядомы — **В.С.**).

У 1410 годзе пад Грунвальдам у складзе агульнай літоўска-рускай раці, якой камандаваў сам вялікі князь Вітаўт (Аляксандр), з крыжакамі змагалася пад трохкутнай чырвонай харугвай і слонімскае рыцарства. Пасля тае пераможнае бітвы ў многіх гарадах княства Вітаўт рассяліў яе ўдзельнікаў — татар. Так у Слоніме з'явілася татарская калонія, што затым вылучылася ў асобную Татарскую вуліцу (цяпер вуліца імя Кірава).

Пасля Гарадзельскай уніі 1413 года Слонімскае княства было ператворана ў Слонімскі павет і ўвайшло ў Трокскае ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Адміністрацыйную, гаспадарчую і судовую ўладу ажыццяўлялі тут так званыя намеснікі, а затым старосты паветаў, пры ўсё яшчэ намінальным існаванні мясцовай рады і захаванні ранейшай тэрыторыі. І намеснікі, і старосты паветаў назначаліся вялікім князем. Гарадзельская унія канчаткова раскалола насельніцтва краю на католікаў і праваслаўных, аддаючы першым значныя прывілеі і палітычна дыскрымінуючы другіх. Сярод іншых рэгіёнаў і Слонімшчына рабілася месцам прыцяжэння католікаў, бо афіцыйна ўладу маглі атрымаць толькі тыя, хто вызнаваў рымскую веру.

Пасля смерці Вітаўта (1430) вялікім князем літоўскім стаў наймалодшы сын Альгерда — Свідрыгайла (1430 — 1432), які ў сваёй палітыцы апіраўся, у асноўным, на беларускіх і ўкраінскіх феадалаў праваслаўнага веравызнання. Літоўскія ж феадалы-католікі, пры падтрымцы варшаўскага каралеўскага двара, вялікім князем абвясцілі Жыгімонта Кейстутавіча — малодшага брата Вітаўта, які праводзіў пракаталіцкую палітыку. Барацьба за тытул вялікага князя працягвалася Свідрыгайлам з 1432 да 1436 года. Асабліва вялікі спусташэнняў Слонімшчына зазнала ад гэтых бітваў у 1433 годзе. Паўстанцы Свідрыгайлы тут зацята змагаліся з войскамі Жыгімонта, якімі камандаваў яго сын Міхал. Атрымаўшы шэраг перамог, князь Міхал, якому пры Жыгімонце належала амаль уся Чорная Русь, запісаў Слонім, Ваўкавыск і Камянец у падарунак сваёй другой жонцы Офцы. Але з прыходам у 1440 годзе да вялікакняжацкай улады Казіміра Ягелончыка, Міхал страціў чарнарускія землі.



*Герб Вялікага княства Літоўскага.*

Слонім зноў стаў гаспадарскім горадам, адкуль усе падаткі ішлі ў казну Вялікага княства Літоўскага і Кароны. Пасаду вялікакняжацкага намесніка ў Слоніме на той час займаў Бутрым, а з 1483 года — Солтан Аляксандравіч, які ад сына Казіміра, вялікага князя Аляксандра атрымаў у 1493 годзе ў спадчыннае карыстанне Жыровіцкі маёнтак.

Недзе прыблізна ў 1490 годзе вялікім князем літоўскім і каралём польскім Казімірам Ягелончыкам у Слоніме, побач з Замкавай плошчай, быў збудаваны першы ў горадзе каталіцкі касцёл (на месцы якога цяпер узвышаецца касцёл Св. Андрэя).

*(Пачатак у №44-47,51 за 1998 г., №8,11,14,17,19 за 1999г.).*

20 21

Газета Слонімская
3 — 9 чэрвеня 1999г., № 23 (104)

# ДОЖДАЛСЯ

Замуж Ольгу выдали рано. Старшую в многодетной семье, ее никто не спросил, время трудное, а одним ртом становилось меньше. Мать жалела дочь, но уж больно жених был завидный: школьный учитель с постоянным заработком считался в те годы уважаемым человеком в деревне. Увидел он Ольгу на уроке и влюбился. Подождал два года, пока школу закончит, и пришел к ее отцу сам, без сватов. Свадьбу справлять не стали, собрали ужин получше обычного для самых близких. А когда, посидев за столом, гости разошлись, Павел взял Ольгу за руку и увел за собой. И была эта дорога из родной деревни в соседнюю самой короткой и самой длинной. Короткой сделал ее страх перед чужим человеком, длинной - вопрос: неужели загублена моя молодая жизнь, неужели так и не погуляю?..

Прожив с мужем полгода, Ольга ни в чем не могла его упрекнуть. Добрый и заботливый, он отличался от ее отца – человека замкнутого и сурового. Пьяный Павел домой не являлся, если и приходилось выпивать, всегда знал меру. Грубого слова от него не слышала, и чтобы руку на нее поднял – представить себе не могла. Хоть и был он человеком приезжим, любили его и дети в школе, и односельчане – люди, скупые на внимание. Но для Ольги оставался Павел чужим, простить ему не могла: взяв в жены, не спросил он ее согласия. С каждым прожитым днем становилась эта обида сильней. Тосковала она, и все чаще вечерами, свободными от домашних дел, уходила из дома в гости. И зашла она в такой вечер не к подруге, а в клуб на танцы. Страшновато было, но нашлись кавалеры и даже провожатые, закружилась голова от мнимой свободы. С кавалерами танцевала, с провожатыми по дороге домой целовалась, но мужу изменять боялась. Не мужа боялась, отца. Понимала – узнает, может покалечить. И все было бы хорошо, но пришла в голову Павлу мысль, что должна Ольга учиться дальше. Уговаривал он поступить ее в институт заочно, обещал помогать. Не хотелось Ольге менять свою веселую жизнь на учебники. А когда почувствовала, что будет у нее ребенок, побежала к матери. Выслушала она Ольгу, обрадовалась, обняла и заплакала: "Что же ты, дочка, делаешь! На всю округу мужа своего позоришь. Ты в клубе танцуешь, а он под окном стоит. От клуба домой тебя тайком провожает, когда ты с ухажорами идешь. Боится, не обидел бы тебя кто! Что же ты за человек такой бессердечный!? Пожалей ты Павла! Он от судьбы тебе подарок! "

Обратная дорога домой давалась не легко: "Значит, знал Павел, что на танцы бегаю. Знал, но молчал. Добренький, хорошенький ...Пожалеть его надо! А меня кто пожалеет? У меня кто спросил, хочу я ребенка или нет? Опять никто... Никто! Ну вот, хорошенький, и расти его сам!"

Ольга поступила в институт. Родилась дочь. С первого дня Павел отдал ей часть своей души. И для Ольги они стали чужими оба. Не могла она быть счастливой, обиды были сильнее. Замкнулась на учебниках и радовалась, что покидает нелюбимый дом, когда уезжала на сессию. За годы учебы дочь подрастала, и все больше походила на отца, уже директора школы.

Когда Павла перевели на партийную работу, семья переехала в город. Столкнувшись с городской жизнью, Ольга поняла, что она за мужем, как за каменной стеной. У большинства знакомых в семьях сплошные проблемы. А ее Павел по-прежнему охраняет ее. И где он на все силы берет? Любит он ее, несмотря ни на что... Какими мелкими стали вдруг ее обиды, вспомнились слова матери: "Бессердечная!". Нет! Есть у нее сердце! Есть! Ведь болит оно сейчас при оной только мысли, что в этом большом городе он может встретить другую, которая будет любить его. А она? ОНА ЛЮБИТ ЕГО! Это признание самой себе изменило всю жизнь. Поняла, что в неоплатном долгу она перед мужем и дочерью. В заботах о них пролетали годы. Все реже вспоминала Ольга о своем желании покаяться перед мужем за былые грехи. Признаться, что давно любит и безумно ревнует.

Дочь выросла, вышла замуж, ждала ребенка и просила Ольгу помочь первые дни с новорожденным. Вот тут и вернулся к Ольге страх расплаты, как признаться дочери, что растил ее отец, которому помогали мать и младшие сестры? Родилась внучка, забрали ее из роддома и в первый вечер собрались купать всей семьей. Просит дочь помочь, а Ольга с места сдвинуться не может! Вот она расплата! И как сквозь сон голос Павла: "А ну-ка, дайте внучку дедушке!" Оставшись наедине с мужем, Ольга дала волю всему, что томило ее многие годы. Это были горькие слезы ревности и много-много нежных слов любви... Павел гладил седеющую голову жены и, чтобы самому не заплакать, повторял: "Дождался.. Дождался..."

Всю оставшуюся жизнь прожили они в любви и согласии... Пережившая мужа на полгода, Ольга радовалась, что выполнила свой долг – не позволила любимому Павлу хоронить ее.

О судьбе бабушки нам рассказала взрослая внучка.

**Лариса ПЕТРОВА**

***Безответная любовь... какая она? Давайте о ней и поговорим за чашечкой. Ждем. Пишите.***

Фота IREX/ProMedia

***В Киеве в помещении Национальной библиотеки им. Вернадского открылась выставка-конкурс художественной фотографии «Украина, моя Украина», посвященной Дню Независимости Украины. Фотоэтюд: «Краса и мода».***

**РЕЗОНАНС**

## ЖИЗНЬ — ШТУКА СЛОЖНАЯ

Прочитала статью Ларисы Петровой «Отдушина». Она меня взволновала. В конце публикации стоял вопрос: осуждаете или понимаете? Нет, осуждать героиню статьи я не собираюсь. Как говориться: «Не суди, да не судим будешь». Но и понимать такое желания нет. Я осуждаю нашу какую-то нездоровую, двуличную жизнь вообще. Почему мы всё время прикрываемся красивыми фразами, не называя вещи своими именами? Почему простое слово «распутство» называем той же отдушиной?.. Потому, что так красивее, себе в угоду. Но ведь и отдушина – это, получается, когда дома дышать нечем. А у другой или с другим дышится легко и свободно. И всё это до такой степени распространилось, что считается в порядке вещей. А я вот не верю в эти сказки, что, придя от другой, получив там всё, о чём мечтал, муж будет так же ласково и влюблёно смотреть на жену, как только что смотрел на любовницу. С женщинами тоже самое... Лицемерие всё это. Красивая игра в благополучную семью. Но что самое страшное, в итоге страдают дети. Ведь они очень наблюдательны. Любая неправда, любые фальшивые отношения между родителями они распознают сразу же и безошибочно. И страдают, и мстят всему миру. А мы удивляемся, почему в такой благополучной семье – такие нехорошие дети? А вот и получается, что семьи-то с «отдушинами».

Я не хочу обобщать, жизнь – штука сложная, каждый отдельный случай не похож на другой. У каждого человека своя котировка жизненных ценностей. Но лично мне хотелось бы, чтобы в наших семьях меньше было таких вот «отдушин», чтоб дышали мы легко и спокойно, чтобы больше было настоящей любви и взаимопонимания.

**Светлана БОЛТИК**

## КАЖДОМУ СВОЁ

В №17 «ГС» в рубрике «За чашечкой» была опубликована статья Л. Петровой «Отдушина». Автор пригласила читателей к разговору по затронутой теме.

Мне тоже захотелось высказать свою точку зрения по этому вопросу.

Не берусь осуждать – это не благодарное занятие. Не берусь и защищать. У Андре Моруа я прочла: «...Одно дело – брак, а другое – любовь. Надо иметь прочную канву, но отнюдь не запрещается вышивать по ней узоры. Весь вопрос – как это делать.»

От себя добавлю: и какие узоры выбрать «вышивальщикам». Я считаю, что отдушину нужно искать в семье. Она для того и создаётся. А если каждый из супругов имеет эту отдушину на стороне, то семьи нет, есть только её видимость. В таком случае лучше быть одинокой, чем одиночество вдвоём, втроём, вчетвером...

Я родилась и выросла в семье, где каждый из её членов мог в любую минуту найти свою «отдушину». Мы все спешили домой! И так было всегда.

Родители прожили в мире и согласии 50 лет. Большего счастья я не знаю...

Жизнь диктует свои законы. Не всё в ней складывается так, как хотелось бы. К тому же, каждому своё.

И всё-таки отдушина вне семьи – это не для меня.

**Лилия ПРУДНИКОВА**

# "НЕ СО МНОЙ ОН ЖИЛ..."

Николай Петрович и Елена Ивановна прожили супружеской жизнью девять лет. Сын у них первоклашка. Хозяин непьющий, некурящих, работающий. Из тех, про которых говорят: все в дом тащит. Это про него одна соседка сказала:

– Не мужик у тебя, Ленка, а золотой клад!

И вдруг люди узнали: Елена Ивановна ушла к другому.

Бог мой, что тут поднялось!

– И чего ей еще надо было?!

– Такого мужа бросила!

– Вертихвостка!

Такие слова слышались в адрес Елены Ивановны. Кто-то из соседей то ли в шутку, то ли всерьез посоветовал Николаю Петровичу:

– А что, Николай, иди к судье, он заставит твою бабу вернуться. Вся правда на твоей же стороне.

Николай Петрович был настолько расстроен случившимся, настолько растерян, что принял совет за чистую монету и пошел к судье.

Судья серьезно выслушал. И даже виду не подал, что Николай Петрович просит невозможного.

Но, тем не менее, сказал:

– Хорошо, я поговорю с ней.

Елена Ивановна не оспаривала:

– Да, непьющий, некурящий...

– Да, работящий...

– Да, все в дом тащит...

И тут судья не выдержал и спросил:

– Тогда, действительно, что же вам еще надо было?

Елена Ивановна укоризненно посмотрела на судью. Помолчала минуту. Потом сказала:

– Не со мной он, а с вещами жил. И я для него вещью была. Да и то, вещь-то хоть раз в неделю тряпкой погладят от пыли, а он во мне за всю жизнь светлого пятнышка не нашел, единого ласкового слова не сказал. Не любит он меня... Да и сомневаюсь я, что для таких, как он, любовь существует. А человек ведь не хлебом единым жив.

Судья потом неожиданно для себя еще долго и много разговаривал с Еленой Ивановной. И, когда она вышла, почему-то был уверен, что Елена Ивановна вернется к мужу. К сыну. Да и люди переживали: "Хоть бы одумалась да вернулась...".

А вернулась ли?..

Один неглупый человек определил: женщина становится женщиной, когда ее любят. А что, разве Елена Ивановна не имеет права на любовь?

**Геннадий ПАШКО**

## АХ, КАКАЯ ЖЕНЩИНА!..

Сегодня мы поговорим о женственном типе телосложения, к которому принадлежит подавляющее большинство женщин. Для их фигуры характерна форма "песочные часы" — средние или узкие плечи, средних размеров грудь, тонкая талия, округлые бедра и ягодицы.

В организме такой женщины существует избыток женского гормона эстрогена, который перераспределяет жировые клетки, располагая их преимущественно в области груди, бедер и ягодиц, где чаще всего и происходит накопление избыточного веса. Как правило, эти излишества сопровождаются эффектом целлюлита — когда жировая ткань выглядит неровной и комковатой.

Женщины этого типа склонны отказывать себе в завтраках, а вместо полноценного обеда — довольствоваться чаем с бутербродами. Обычно они объясняют это тем, что если начнут день с сытной еды, то потом уже не смогут остановиться и будут объедаться весь день, тогда как им необходимо держать свой вес под контролем. Так они постятся целый день, зато уж вечером не удерживаются и дают себе полную свободу. Последствия не замедляют сказаться: после чрезмерного ужина они плохо спят ночью и утром встают неотдохнувшими.

Что можно посоветовать этим страдалицам? Во-первых, никогда не пропускайте завтрак. Если утром не позавтракать, уровень сахара в крови остается очень низким, и вы будете чувствовать себя разбитыми и вялыми. После пробуждения выпейте стакан воды с лимонным соком, это поможет облегчить кишечник и пробудит аппетит.

Во-вторых, старайтесь ужинать пораньше, чтобы разрыв между обедом и ужином был не очень велик. Если уже после ужина вас перед самым отдыхом ко сну опять "разбирает" что-нибудь пожевать, предпочтите всему яблоко или морковку — сон ваш будет легок, а совесть чиста!

В-третьих, ваш вечерний прием пищи хотя и должен быть наибольшим по объему (так как эффективность обменных процессов вашего организма самая высокая в это время суток), но не должен быть чрезмерным.

Предлагаемые ниже варианты дневных меню для дам женственного типа состоят из легких, но питательных блюд, которые, не перегружая организм, не оставят вас голодной.

Завтрак:

1. 2/3 стакана отварного риса, 1/2 стакана салата из овощей, яблоко или апельсин; 2. 1 яйцо всмятку или вкрутую, бутерброд на подсушенном хлебе из нескольких ломтиков помидоров и веточек петрушки, стакан сока.

Обед:

1. Омлет из 2-х яиц, столовой ложки обезжиренного молока и пяти нарезанных помидоров сверху посыпать нарезанной петрушкой (две столовые ложки), 2 сухих хлебца, фрукт по выбору; 2. 1/2 запеченной грудки цыпленка, зеленый салат, 1 стакан нарезанной ломтиком свеклы с лимонным соком; 3. 1 стакан отварных макарон хорошо перемешайте с 1/2 стакана отварных грибов, тремя нарезанными помидорами, 1/4 стакана нарезанного болгарского перца, мелко нарезанной петрушкой и 1 столовой ложкой винегретной заправки, 1 яблоко или киви; 4. 100 г белой рыбы, приготовленной в гриле, зеленый салат, небольшая отварная картофелина, 1/2 стакана нарезанных свежих фруктов.

Ужин:

1. 100 г постного мяса-гриль, 1 небольшая картофелина, 1 стакан отварной цветной капусты, свежий фрукт на выбор; 2. 1 небольшая картофелина, 2 стакана нарезанной белокочанной капусты с тертой морковью, 1 апельсин; 3. 1 небольшая отварная картофелина, 3/4 стакана отварной моркови, 12 стручков консервированной фасоли, 1 небольшой свежий фрукт; 4. полтора стакана отварного риса или гречки, стакан огуречного салата.

 



Газета Слонімская
3 — 9 чэрвеня 1999г., № 23 (104)

# ГОРОСКОП

**с 3 по 9 июня**


**ОВЕН**

Не самый удачный период. Во-первых, придется здорово потратиться... не зная - зачем. Во-вторых, конфликты с родственниками выбьют из привычной колеи. А на работе - период бездействия, так что лучше ничего не планировать. И вообще - отправляйтесь на рыбалку, вы нуждаетесь в одиночестве.


**ТЕЛЕЦ**

Ваше упрямство в достижении цели будет награждено с лихвой. Вы получите не только деньги, но и всеобщее признание. Однако на сердечном фронте придется поумерить пыл в выяснении отношений - можете все испортить. Мужчины-Тельцы будут более удачливы.


**БЛИЗНЕЦЫ**

Приготовьте кошелек, да побольше! Единственный конфликтный день - это воскресенье, и то по причине вашего неудержимого легкомыслия. В этот период постарайтесь отказаться от логики и прислушайтесь к внутреннему голосу - точно подскажет, что и как делать дальше.


**РАК**

Вам придется рассчитывать только на свои силы, помощи ждать неоткуда. Впрочем, это к лучшему - когда вы берете ответственность на себя, можете рассчитывать на успех. У свободных от семейных уз Ракинь может возникнуть проблема выбора, а холостые Раки уйдут в загул.


**ЛЕВ**

На некоторое время вы отойдете на второй план - соперники и конкуренты будут слишком активны и предприимчивы. В эмоциональной сфере вы способны сами себя задавить стенаниями: "Ах, я несчастный!". И напрасно. Таких везунчиков еще поискать. Просто надо немножко потерпеть.


**ДЕВА**

Хорошая финансовая ситуация и полный эмоциональный комфорт настолько вас расслабят, что к 9-10 июня можете получить от судьбы отрезвляющую оплеуху. Поэтому, не взирая на абсолютно счастливые дни, все-таки будьте настороже.


**ВЕСЫ**

Вы найдете выход из положения, которое еще вчера казалось безвыходным. Доходы возможны не только в виде денег, но и в виде идей и проектов, придуманных вами буквально на ходу. Вероятно удовлетворение высоких личных амбиций у представителей правоохранительных органов.


**СКОРПИОН**

Предстоящая поездка потребует дополнительных расходов, которые вряд ли будут возмещены. Переменчивость эмоций и настроений может дурно сказаться на работе. Скорпионши в пятницу, 4-го, будут необыкновенно счастливы, но уже в воскресенье начнут проливать слезы.


**СТРЕЛЕЦ**

Вам следует быть терпимым и сдержанным, потому что 5-6-го могут навалиться большие неприятности, невзирая на то, что это выходные дни. Поговорка "нет худа без добра" как раз отражает данный период, поэтому будьте философом и просто чуточку подождите.


**КОЗЕРОГ**

Последите за своим здоровьем, и до воскресенья ничем не рискуйте - ни кошельком, ни временем, ни собственными идеями. Все может развеяться по ветру. С 6-го - глобальные изменения в лучшую сторону, вы можете стать участником значимых событий или вовлечены в прибыльное дело.


**ВОДОЛЕЙ**

Вас может просто подкосить любая поездка даже 2-3-х дневного характера. Сидите дома. Вся первая половина периода - сплошные проблемы, начиная с воскресенья - удачное их разрешение. И никаких новых романов и увлечений, все это только усугубит эмоциональную неустойчивость.


**РЫБЫ**

А вы, однако, нытик... Вместо того, чтобы использовать денежные поступления и начало лета для проведения отпуска где-нибудь в уютном приморском курортике, вы будете валяться на диване дома, "доставать" близких и тратить средства на покупку совершенно ненужных вещей.




# КОНКУРС СУЧАСНЫХ ПРЫПЕВАК

**Працягваецца конкурс сучасных прыпевак. Таму паранейшаму чакаем ад вас, шаноўныя чытачы, гэтых вясёлых твораў. Аўтары лепшых прыпевак атрымаюць прызы. Абавязкова ўказвайце сваё імя і прозвішча, хатні адрас і тэлефон. Пішыце!**

***

Мой миленок сгоряча
Подарил мне "Москвича",
Только бесполезно —
Я в него не влезла.

**Екатерина Дорофейчик**

***

Усе пытаюцца ў мяне,
Дзе я напілася?
Самагонкі я нагнала —
Вельмі ўдалася.

***

Я надзену белу кофту
І спаднічку вузкую.
Не чапайце маю мову,
Мову беларускую.

***

Усё на градах
ў нас расце —
Ад бульбы да радыскі,
Толькі шкода, што на градах
Не растуць сасіскі.

***

Каля рэчкі дзве авечкі,
Гусі ў рэчцы мыліся.
Усе новыя законы
Куды праваліліся?

**Наталля Кніга**

***

Перестройка,
перестройка,
Вот и перестроилась:
У меня сосед богатый —
Я к нему пристроилась.

**Жанна Жданович**

***

Мая мілка на гулянне
Так намалявалася,
Што карова не пазнала —
З ланцуга сарвалася.

***

Меня милый провожал,
До забора тиснул.
Один доллар
был в кармане —
Он и тот взял свистнул.

***

Мой мілёнак худашчавы,
Аж ад ветру гнецца,
Навяжу на канюшыне —
Можа адпасецца.

**Тацццяна Тарасік**

***

Сколько будет еще длиться
Наш сегодняшний застой?
Деньги льются, как водица,
Кошелек всегда пустой.

***

Я не знаю, как у вас,
А у нас так водится:
Один грядки все сажает,
А другой — с них кормится.

***

Я купила холодильник
Под названием "Ока".
Мяса нету, рыбы нету...
Положу-ка хлеб пока.

***

Папа сыну Степочке
Подносил по стопочке.
Когда Степа
стал Степаном,
Начал водку пить стаканом.

**Лилия Прудникова**

## У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:

Быстрыцкі Мікіта
Цімафейчык Дзмітрый
Кіслы Яўген
Раманоўская Вікторыя
Троцкі Аляксей
Пятровіч Дар'я
Грыгаран Ілля
Вітkoўская Лізавета
Касінюк Вікторыя
Карпейчык Хрысціна і Вераніка
Супрун Дзяніс
Ігнатовіч Аліна
Кузняцоў Мікалай
Гілейша Уладзіслаў



## У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны шлюб

Крот Наталлі і Валюка Вячаслава

# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Кудзін** Мікалай Васільевіч | 1942 г.н. |
| **Ціханчук** Дзмітрый Віктаравіч | 1963 г.н. |
| **Строк** Міхаіл Уладзіміравіч | 1959 г.н. |
| **Макруцін** Яўген Мікалаевіч | 1938 г.н. |
| **Шпітальнік** Ісак Нафтанавіч | 1922 г.н. |
| **Кашынскі** Тадэвуш Іосіфавіч | 1930 г.н. |
| **Чыгрын** Аляксандр Аляксандравіч | 1957 г.н. |
| **Такарчук** Лідзія Міхайлаўна | 1920 г.н. |
| **Чышчэня** Сідар Арцёмавіч | 1907 г.н. |
| **Грышэўскі** Пётр Мікалаевіч | 1957 г.н. |
| **Міско** Марыя Макараўна | 1939 г.н. |

## ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

■ Стойкие прокладки, служащие в несколько раз дольше обычных, получаются из старой шины от автомобиля или мотоцикла. Прокладка вырезается из боковины (там шина тоньше), прочность ей придают нити корда.

■ Если засорилась сточная труба раковины, а в вашем хозяйстве нет резинового вантуза, помочь может пустой пакет из-под молока. Вставьте его срезанным углом в отверстие стока и несколько раз энергично нажмите сверху.

■ Если вы сумеете надежно состыковать резиновый шланг со сливным отверстием ванны или раковины, например с помощью резиновой пробки, сделанной из хоккейной шайбы, то мощный напор воды (лучше горячей), поступающей из открытого крана очень быстро прочистит водосток. При этом не забудьте надежно заглушить верхнее переливное отверстие ванны (хотя бы с помощью мокрой тряпки).

■ Иногда дает неплохие результаты «химический» способ. Засыпьте в горловину слива горсть соды. После того как она исчезнет в дырочках решетки, влейте туда же полстакана уксуса. Через пару минут промойте сливное колено водой. При необходимости всю процедуру можно повторить.

■ При соединении трубопроводов в качестве герметика советуем использовать жевательную резинку. В размягченном виде ее наносят тонким слоем на резьбу и накручивают муфту.

■ Отремонтировать прохудившийся поплавок туалетного бачка очень просто. Из поплавка вытряхивают воду, а затем помещают в полиэтиленовый пакет, горловину которого плотно закручивают изоляционной лентой.

## АНЕКДОТЫ

☺ Жена к мужу:
— Решай! Или я или водка!
— А сколько водки?

☺ — Дедушка, а ты был маленьким?
— Был, внучек.
— Ну и смеялись, наверное, ребята над твоей бородой и лысиной!

☺ — Твоя жена такая же очаровательная, как и раньше? - спрашивает один мужик другого.
— Да, только теперь это занимает у нее на два часа больше.

☺ В пивной беседуют банковские служащие.
— Я понимаю, почему вор взял из сейфа деньги и драгоценности. Но я не понимаю, зачем он увез и жену директора.
— Зачем? - отвечает другой. Да чтоб директор его не искал.

☺ В магазине:
— Скажите, а что это за телефоны написаны на всех ценниках?
— Да сколько раз объяснять - это не телефоны, а цены!

☺ — Дай в долг десять рублей.
— У меня только пять. - Давай пять, а пять будешь должен.

☺ — Я уже год не разговариваю со своей женой.
— Из-за чего?
— Не хочу ее перебивать.

☺ Лежит муж с женой на пляже и каждую проходящую девушку взглядом встречает и провожает... Жене это не нравится...
— Ты чего смотришь, тебе меня не хватает?
— Если я на диете, это не значит что я не могу заглянуть в меню!

☺ — Маэстро, ваша последняя кинокартина прекрасна. Я вчера была на просмотре.
— Ах, это вы были в зале?

☺ В 22 веке проходят раскопки. Молодой археолог натыкается на могилу, в которой лежит загадочный экземпляр: в серой форме и с полосатой палочкой в гробу. Молодой археолог спрашивает у аксакалов:
— Кто это?
— О, это человек из племени ГАИ, они жили на асфальте и питались зеленью.

## ЛИТЕРАТУРНЫЙ КРОССВОРД

*от Владимира ВАШУТЫ*

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 7**. Великий русский поэт. **8**. Сборник литературных произведений разных авторов. **11**. Герой пьесы Я.Купалы "Разоренное гнездо". **12**. Украинский поэт, Герой Социалистического труда. **13**. Стихотворение А.С.Пушкина. **14**. Древнегреческий поэт. **17**. Древнегреческий философ. **18**. Советский писатель, автор романа "Они сражались за Родину". **19**. Стихотворение М.Ю.Лермонтова. **22**. Русский советский писатель, автор повести "Сын полка". **23**. Роман Д.Н. Мамина-Сибиряка. **26**. Одно из стихотворений 1828 года А.С.Пушкина. **27**. Страница в типографском наборе, печатном издании. **32**. Словесное художественное стихотворное творчество. **33**. Примечание автора к тексту пьесы. **34**. Сказка А.Толстого. **38**. Народная поэтесса Литвы. **39**. Народный поэт Беларуси. **41**. Рассказ А.Куприна. **42**. Рассказ Л.Н.Толстого. **43**. Стихотворение М.Ю. Лермонтова. **44**. Жанр древнерусской литературы.

**ПО ВЕРТИКАЛИ: 1**. Герой романа А.Фадеева "Разгром". **2**. Автор сказки "Конек-горбунок". **3**. Роман К.Чорного. **4**. Французский писатель XIX века, автор романа "Госпожа Бовари". **5**. Киргизский национальный эпос. **6**. Народный писатель Беларуси, автор драмы "На рассвете". **9**. Пьеса А.П.Чехова. **10**. Краткое иносказательно-нравоучительное произведение. **15**. Советская поэтесса, автор стихов для детей. **16**. Персонаж романа М.Горького "Мать". **20**. Персонаж романа Ж.Верна "Таинственный остров". **21**. Поэма Я.Купалы. **24**. Стихотворение А.С.Пушкина лицейского периода. **25**. Советский писатель, автор повести "Витя Малеев в школе и дома". **28**. Советский писатель, автор романа "Донбасс". **29**. Известный французский писатель и драматург. **30**. Стихотворное повествование или диалог, изображающие бытовые крестьянские сценки. **31**. Русский писатель — сатирик XVIII века. **35**. Пьеса М.Горького. **36**. Повесть Л.Н.Толстого. **37**. Великий русский писатель. **40**. Роман болгарского писателя Д.Димова.



**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№22)**

**1**. Караван. **2**. Капитан. **3**. Каток. **4-7**. Пан. **4-8**. Пик. **5-9**. Пас. **5-10**. Пар. **6**. Завет. **7**. Налог. **8**. Колер. **9**. Седан. **10**. Радар. **11**. Неман. **12**. Комар. **13**. Табор. **14**. Набат. **15**. Рабар. **16**. Габон. **17**. Ранет. **18**. Нонет. **19.** "Ротор". **20**. Натал. **21**. Тезис. **22**. Резен. **23**. Набор. **24**. Робот. **25**. Тенор. **26**. Тинен. **27**. Лоток. **28**. Ротер. **29**. Невер. **30**. Совет. **31**. Тесак. **32**. Росон. **33**. Недуг. **34**. Редан. **35**. Ротатор. **36**. Катер. **37**. "Табак". **38**. Рубанок. **39**. Нея. **40**. Кая. **41**. Нао. **42**. Гао.

 

 



**ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА**

# ВОЛЯ ДА ПЕРАМОГІ

## Камунальнік (Слонім) — Пінск-900 — 2 : 1

**Слонім. 30 траўня. Стадыён "Юнацтва". 3000 гледачоў.**
**Суддзя Браніслаў Ясінскі (Мінск).**
**Камунальнік: Бекіш, Уладзімірскі (Купрыкаў, 60), В. Дзегіль, А. Дзегіль, Дым, Пагоцкі, Ягаўцоў (Дубінін, 67), Савіцкі (Аначанка, 86), Баль (к), Савань, Татарашвілі.**
**Галы: Міхальчанка (31), Савіцкі (42), Дубінін (70).**



Гульня пачыналася пад грукат грому – набліжалася навальніца... Слонімцы адразу пайшлі ў атаку. Ігралі аднастайна – перадачы, у асноўным, ішлі на Татарашвілі, а ўдарам Георгія не хапала дакладнасці. Госці адказвалі контратакамі. Падчас адной з іх і вызначыўся нападаючы пінчан Вячаслаў Міхальчанка. Ён атрымаў перадачу злева, згуляў на апярэджванне і пракінуў мяч у вароты міма Сяргея Бекіша.

"Камунальнік" хутка аднавіў раўнавагу ў ліку. У адной з атак вароты Андрэя Ясковіча "расстрэльвалі" Анатоль Дзегіль, Георгій Татарашвілі, а гол забіў Алег Савіцкі. Першая палова гульні так і закончылася ўнічыю.

У другім тайме слонімцы шмат атакавалі, "Пінск-900" абараняўся і адказваў контратакамі. На 55 мінуце госці засталіся ўдзесяцярох – за дзве жоўтых карткі быў выдалены Міхальчанка. Але нават пасля гэтага пінчане дастойна супраціўляліся. Пераломным момантам гульні стаў гол, забіты Антонам Дубініным, які толькі выйшаў на замену. Антон дзесьці з лініі штрафной пляцоўкі дакладна "стрэліў" у левы верхні вугал варот "Пінска-900".

Нашы футбалісты пачалі гуляць так, як у лепшых сваіх матчах мінулага сезону. Перавага над гасцямі была пераканаўчай. "Камунальнік" атакаваў разнастайна, імкліва, востра. Атака ішла за атакай, і мяч цудам не трапляў у вароты "Пінска-900". Праўда, у адным моманце гол забіў Татарашвілі, але з афсайда, і ён не быў залічаны. Нават праліўны дождж не спыніў атак "Камунальніка". А на апошніх мінутах матча Татарашвілі не забівае пенальці – варатар адбіў мяч.

Атрымаўшы гэтую "валявую" перамогу, слонімцы замацаваліся ў групе лідэраў. Наступную гульню "Камунальнік" праводзіць 5 чэрвеня ў гасцях з "Керамік-Бярозай", якая ў апошнім туры атрымала сенсацыйную перамогу ў Мінску над "Дынама-Юні".

**Сяргей ЁРШ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

**ШАШКІ**

## УВАГА, ВЫНІКІ КОНКУРСУ!

**Завяршыўся конкурс рашэнняў шашачных пазіцый. Змяшчаем рашэнні апошніх заданняў ("ГС", № 19, 6-12. 5. 1999 г.):**

**Заданне 9.**

1. f2 - e3 d2 - e1 (вымушана)
2. f4 - e5 d6 : d2
3. g1 - f2 e1 : g3
4. h2 : f4 і стварылася парадаксальная сітуацыя: чорныя маюць аднолькавую колькасць шашак з белымі, іх шашка знаходзіцца на пераддамачным полі, іх чарга ходу, але менавіта з-за гэтага яны і прайграюць. Такое становішча называецца "цугцванг". У дадзенай пазіцыі выйгрыш белых нескладаны: на 4... e7 - d6, 4... e7 - f6 ці 4... g7 - f6 следуе 5. b2 - c3X, на 4... d2 - c1 5. b2 - c3 c1 : g5 6. h2 : d8 з перамогай. Калі ж 4... d2 - e1, то 5. a3 - b4 e1 : a5 6. b2 - c3 a5 : g5 7. h4 : d8 X.

**Заданне 10.**

1. d2 - e3 f2 - g1 2. e1 - f2 g3 : b4 3. c1 - b2 a3 : d6 4. d4 - c5 g1 : b6 5. a7 : e7 f8 : d6 6. h6 : a3 X.

Усе дзесяць заданняў правільна рашыў толькі адзін удзельнік конкурсу – **Лойка** Міхаіл Мікалаевіч (в. Навасёлкі Дзераўноўскага с/савета). Па дзевяць заданняў рашылі Уладзімір **Захарчук** і Сяргей **Чэкан** (г. Слонім), восем – Аляксей і Юрый **Журовічы**, Марына **Малінка** (Рахавіцкая СШ). Усе яны аб'яўляюцца пераможцамі конкурсу рашэнняў і будуць узнагароджаны шашачнай літаратурай з аўтографамі вядучых шашыстаў Беларусі.

Уручэнне прызоў пераможцам адбудзецца ў нядзелю, 6 чэрвеня, у 12.00 у рэдакцыі "Газеты Слонімскай" (вул. Янкі Купалы, 5).

**Аляксандр АНІСЬКА,**
**кандыдат у майстры спорту**



**Вынікі астатніх матчаў тура:**

Віцьбіч-Дынама-Энерга – Орша ... – 0:1
Граніт – Вейна-Днепр ... – 1:1
Рагачоў – Палессе ... – 1:1
Тарпеда – ЗЛіН ... – 2:1
Камунальнік Св. – Ведрыч-97 ... – 2:2
Дынама-Юні – Керамік-Бяроза ... – 2:3

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**
**пасля 7-га тура**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама-Юні | 7 | 4 | 2 | 1 | 14:9 | 14 |
| 2. Граніт | 7 | 4 | 2 | 1 | 12:7 | 14 |
| 3. Камунальнік (Сл.) | 7 | 4 | 2 | 1 | 11:6 | 14 |
| 4. Камунальнік (Св.) | 7 | 3 | 3 | 1 | 9:8 | 12 |
| 5. Ведрыч-97 | 7 | 2 | 5 | 0 | 13:9 | 11 |
| 6. ЗЛіН | 7 | 3 | 1 | 3 | 12:8 | 10 |
| 7. Вейна-Днепр | 7 | 2 | 3 | 2 | 7:7 | 9 |
| 8. Тарпеда | 7 | 2 | 3 | 2 | 9:11 | 9 |
| 9. Палессе | 7 | 2 | 3 | 2 | 7:9 | 9 |
| 10. Пінск-900 | 7 | 2 | 2 | 3 | 8:7 | 8 |
| 11. Керамік-Бяроза | 7 | 2 | 2 | 3 | 6:9 | 8 |
| 12. Рагачоў | 7 | 1 | 5 | 1 | 5:4 | 8 |
| 13. Орша | 7 | 1 | 4 | 2 | 7:10 | 7 |
| 14. Нёман | 7 | 1 | 3 | 3 | 8:11 | 6 |
| 15. Зорка-ВА-БДУ | 7 | 0 | 4 | 3 | 7:12 | 4 |
| 16. Віцьбіч-Дынама-Энерга | 7 | 0 | 2 | 5 | 5:13 | 2 |

**сезон-99 • 1-я ліга • сезон-99 • 1-я ліга**

# РАЗЫШЛІСЯ МІРНА

## "Нёман" (Масты) — "Зорка-ВА-БДУ" (Мінск) — 2 : 2

З самага пачатку матча мастаўчане кінуліся атакаваць вароты гасцей. Ужо на сёмай мінуце гульні мог вызначыцца капітан "Нёмана" Аляксандр Вярбіцкі. Але пад яго ўдар кінуўся абаронца і выратаваў вароты "Зоркі-ВА-БДУ". Атакі працягваліся, але яны не прыносілі вынікаў.

Дзесьці на 20 мінуце матча пачаўся дождж, які ўнёс свае карэктывы ў ход гульні. Яна стала больш жорсткай, а суддзя спрабаваў астуджваць гарачасць футбалістаў жоўтымі карткамі. У першым тайме галоў так і не было. І ў другім тайме мастаўчане атакавалі, але безвынікова. Як вядома, закон футбола такі: не забіваеш ты, забіваюць табе. Так і атрымалася ў гэтым матчы. На 48 мінуце нападаючы "Зоркі" Дзяніс Роўбат адкрыў лік...

Ужо праз пяць мінут у вароты гасцей быў прызначаны пенальці, які адбівае іх варатар. Але Сяргей Волек дабівае мяч у вароты – 1:1. Пасля гэтага гульня стала больш дынамічнай. Нечакана трэнер мастаўчан памяняў аднаго з лепшых ігракоў матча Аляксандра Вярбіцкага на Аляксандра Давідовіча. Пасля гэтага атакі гаспадароў згубілі сваю вастрыню. Тым не менш, ү на 80 мінуце мастаўчане атрымалі права на чарговы пенальці, які рэалізаваў Дзмітрый Скатарэнка. Але пераможны лік "Нёман" не ўтрымаў. За некалькі мінут да канца гульні госці зраўнялі лік – 2:2.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# ПОСПЕХ ДЫНАМАЎЦАЎ

**Прайшлі чарговыя матчы чэмпіянату вобласці па футболу.**

Слонімская каманда "Юнацтва" (выхаванцы дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы), якая выступае ў групе "Б", на сваім полі згуляла ўнічыю 1:1 з "Наваельняй" (гол у вароты гасцей забіў Валянцін Гайдзэцкі). Гэта ўжо чацвёртая гульня "Юнацтва" у гэтых спаборніцтвах. У папярэдніх матчах слонімцы атрымалі дзве перамогі (над камандамі Казлоўшчыны – 2:0, Карэліч – 1:0) і прайгралі гродзенскаму "Азоту" з лікам 0:2.

Слонімскае "Дынама", якое гуляе ў групе "А", сёлета аслаблена адсутнасцю шэрагу вядучых ігракоў: адны траўміраваны, іншыя цяпер выступаюць за "Камунальнік". Тым не менш, у апошняй гульні ў Зэльве дынамаўцы перамаглі мясцовую каманду – 1:0. Адзіны пераможны гол на рахунку Андрэя Злотнікава.

**Алег ТАЧОНЫ**

**ФУТБОЛ**

# НАШИ В СБОРНОЙ

**27–30 мая в Гродно прошло первенство области по футболу среди юношей 1984 года рождения на призы Белорусской федерации футбола.**

Впервые на этих соревнованиях первое место заняла слонимская команда – "Талант". Слонимчане сыграли вничью с командой СДЮШОР-5 (Гродно) – 1:1, победили "Белкард" (Гродно) – 3:1 и ФК "Смена" (Лида) – 2:0. Три гола на счету Дениса Куршакова, по одному забили Александр Кузьмич, Александр Сычев и Александр Ботик. Ботик был признан и лучшим полузащитником области.

По словам тренера "Таланта" Руслана Корнева, в подобных матчах всегда ощущается присутствие "двенадцатого полевого игрока", т. е. не всегда объективны местные арбитры к командам из районных центров. "Но победить нам помогло большое желание", – сказал Корнев. Он отметил и помощь городского спорткомитета, который финансировал поездку команды в Гродно.

Слонимский "Талант", как победитель, станет базовой командой для формирования сборной Гродненской области (юноши 1984 г. р.), которая в середине июня выступит на чемпионате Беларуси. Главным тренером сборной будет Руслан Корнев. По его словам, кроме десяти слонимских ребят, в нее войдут сильнейшие футболисты из Лиды и Гродно.

**Сергей ЁРШ**



*Команда «Талант»*



**Кто "ГС" всегда читает —**
**Будет очень долго жить.**
**Она жизнь всем продлевает,**
**Учит добрыми нас быть.**

*Лилия ПРУДНИКОВА*

 